# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 48 (613) Год XII 26 ЛІСТАПАДА 1967 ЦАНА 60 гр.


# БГКТ

## З ДЫСКУСІІ НА V ПЛЕНУМЕ

Дыскусія на V Пленуме БГКТ была надта шырокая, але з недахопу месца мы абмяжуемся толькі да некаторых спраў, якія хвалявалі дыскутантаў.

Вельмі істотнай справай у працы БГКТ, а перад усім павятовых аддзелаў, — гаварыў сябар **Рафаловіч** з Саколкі, — павінна быць арганізацыя фэстынаў. Яны прыносяць вельмі многа карыснага, прыцягваюць насельніцтва да Таварыства, часта актывізуюць беларускія асяроддзі. На пашырэнне дзейнасці Таварыства ў культурна- асветнай галіне звярнуў увагу прадстаўнік УСВ М. Куц. Сказаў ён, што ў беларускіх вёсках дзейнічаюць многія арганізацыі грамадска-культурнага характару, а ў іх працуюць беларусы, часта члены БГКТ. У сувязі з гэтым неабходнымі былі б супольныя намаганні паасобных арганізацый у грамадска-культурнай дзейнасці. Гурткам на вёсцы цяжка гэта зрабіць, таму што яны часта не здаюць сабе справы, але Галоўнае праўленне БГКТ магло б быць ініцыятарам падпісання пагадненняў напр. з Ваяводскім праўленнем ПЗГС, «Рух», ТВП, Пажарнікаў, у якіх трэба было б акрэсліць кожнаму заданні. Гэта было б карысным і арганізацыям, і Таварыству, а перад усім беларускаму насельніцтву.

Справы хвалюючыя варшаўскае беларускае асяроддзе закрануў Ю. Бусловіч. Гаварыў ён, што Галоўнае праўленне павінна шырэй выкарыстоўваць варшаўскі актыў у сваёй працы сярод насельніцтва Беласточчыны. Ёсць для гэтага магчымасці, таму што паасобныя прадпрыемствы на жаданне ГП могуць звальняць сваіх працаўнікоў да грамадскіх прац. Ахвотных сярод варшаўскага актыву ёсць многа. Звярнуўся ён таксама з заклікам, каб БГКТ больш увагі звярнула на рэкрутацыю на бел. філалогію Варшаўскага універсітэта.

І яшчэ адна справа, якая хвалюе варшаўскае асяроддзе. Свайго часу група выпускнікоў бел. ліцэя ў Бельску, якія зараз працуюць у Варшаве, пачуўшы аб памяшкальных цяжкасцях ліцэя, забавязалася грамадскім чынам апрацаваць дакументацыю на дабудову. Свае прапановы прадставілі на сустрэчы з дырэктарам школы. Ад гэтага часу справа зусім заціхла з боку дырэкцыі. Да варшаўскіх інжынераў архітэктараў даходзяць толькі слухі, што дырэкцыя ліцэя з прапаноў інжынераў выказала незадавальненне перад павятовымі ўладамі, а не перад інжынерамі.

Шмат месца ў дыскусіі заняла справа музея ў Белавежы. Рэч у тым, што грамадскім чынам сабрана вельмі многа і вельмі каштоўных экспанатаў, якія ў цесным і неадпаведным памяшканні, без кансервацыі марнуюцца і праз год—два могуць змарнавацца беспаваротна. Таварыства не мае грошай, каб гэтыя скарбы матэрыяльнай культуры беларусаў забяспечыць. І ўсё зараз залежыць толькі і выключна ад мясцовых і ваяводскіх улад.

Істотную справу закрануў **А. Баршчэўскі,** які звяртаючыся з запытаннем: чаму не рэалізуецца пастанова Пленума аб названні ліцэя ў Гайнаўцы і адной з вуліц у Беластоку імем Тарашкевіча, адначасова выказаў сваё здзіўленне, таму што Тарашкевіч, як ніхто іншы, з'яўляецца сімвалам беларуска-польскага братэрства.

А. К.



# Беласточкія залежнасці

На пытанні журналіста «Нівы» адказвае мгр інж. Уладзімір МІХАЛЮК, намеснік Старшыні ваяводскай рады ў Беластоку.

**Нашым чытачам вядома, што дагэтуль вы працавалі на кіраўнічых партыйных і дзяржаўных пасадах Бельскага павета. Скажыце, калі ласка, у чым вы бачыце падабенствы ў праблематыцы паміж Бельскім паветам, а цэлым Беластоцкім ваяводствам?**

На гэтае пытанне можна адказаць вельмі коратка: як і Бельскі павет, так і цэлае наша ваяводства з'яўляюцца тыпова сельскагаспадарчымі раёнамі Польшчы, з вельмі слаба развітай прамысловасцю. Адсюль амаль аднолькава сельскагаспадарчая праблематыка, абумоўленая агульнай адсталасцю Беласточчыны — не толькі Бельшчыны. І так: нізкая сярэдняя ўраджайнасць нашых палёў у параўнанні да агульнапольскіх паказчыкаў, малыя накосы сена нават на меліяраваных сенажацях, недастатковая падажа мяса, недацэнка значэння барацьбы з пустазеллем і шкоднікамі палёў.

**Беласточчына з'яўляецца той акругаю Польшчы, у эканоміцы якой галоўная роля належыць сельскай гаспадарцы. Што можна сказаць аб дасягненнях мясцовай сельскай гаспадаркі?**

Гаворачы аб дасягненнях беластоцкай сельскай гаспадаркі неабходна адзначыць, у першую чаргу, хуткі рост жывёлагадоўлі. Зараз налічваецца ў нас сярэдне па 45 штук буйнай рагатай жывёлы на сто гектараў сельскіх угоддзяў. Прытым, характэрнае параўнанне — напрыклад, ад 1960 года пагалоўе жывёлы павялічылася на 32 працэнты, а надоі малака — на 46 працэнтаў. Накосы сена за гэты ж час павялічыліся ў сярэднім на восем з паловаю цэнтнераў з аднаго гектара сенажаці.

Добра развіваецца гадоўля свіней. У тым жа 1960 годзе ў нас налічвалася па звыш 85 штук свіней на сто гектараў ворнай зямлі; тым часам, у гэтым годзе маем ужо па 109 штук.

З году ў год штораз лепшая і ўраджайнасць беластоцкіх палёў. Каб не нудзіць залішне лікамі даволі сказаць, што ўжо ў мінулым, 1966 годзе, Беласточчына — упершыню ў сваёй пасляваеннай гісторыі — поўнасцю забяспечыла свае патрэбы ў збожжы. Дадам: нягледзячы на хуткі рост жывёлагадоўлі, асабліва, гадоўлі свіней — гэтых пажыральнікаў збожжа.

Трэба прытым ведаць, што на Беласточчыне слабыя глебы. Маем усяго шэсць працэнтаў сярэднеўраджайных глеб. Першакласных глеб не маем ні гектара, а другакласных — усяго 15 (пятнаццаць!) гектараў у цэлым ваяводстве.

**У чым перспектыва нашай сельскай гаспадаркі — а тым самым і Беласточчыны?**

У гадоўлі. Ад гадоўлі залежыць добрае развіццё беластоцкай сельскай гаспадаркі таму, што нашы землі слабыя і патрэбна ім штораз больш натуральнага ўгнаення перад усім! Хаця выкарыстанне мінеральных угнаенняў у канцы гэтай пяцігодкі павялічыцца да 110 кілаграмаў у чыстым рэчыве на адзін гектар, аднак на нашых землях значэнне гэтых угнаенняў усё такі абмежаванае.

Жывёлагадоўля ў нашай сельскагаспадарчай палітыцы на Беласточчыне мае асноўнае значэнне. Амаль трэцяя частка ўсіх нашых небагатых сельскіх угоддзяў, гэта — сенажаці, лугі, пашы. Дагэтуль меліяравана ўжо каля 30 працэнтаў агульнай плошчы сенажацяў.

На меліяраваных сенажацях накосы сена ў сярэднім каля 54 цэнтнераў з гектара — значыць, амаль удвая большыя, чым на немеліяраваных. Але і гэта яшчэ далёка не тое, чаго можна дасягнуць.

Меліярацыя, якая зараз праводзіцца ў вялікіх маштабах на Беласточчыне, стварае якасна новыя абшары сенажацяў, што ў спалучэнні з адпаведным угнойваннем іх і доглядам з'яўляецца перспектывай для жывёлагадоўлі. Ад-

(Працяг на стар. 4)

# Каб палепшыць вучэнне бел. мовы

Вынікі мінулага навучальнага года і гаспітаваныя мною ўрокі беларускай мовы сведчаць аб тым, што большасць настаўнікаў нягледзячы на сур'ёзныя цяжкасці (недахоп падручнікаў і іншых школьных дапаможнікаў), дабіліся больш высокай паспяховасці, свядомых адносін школьнікаў да вучобы, далейшага павышэння якасці вучэбна-выхаваўчай работы, удасканальвання метадаў навучання і выхавання. Упэўнена можна сказаць, што перабудова выкладання беларускай мовы ў нашым павеце праходзіць штораз лепш. Вучні больш актыўныя, настаўнікі пачалі звяртаць большую ўвагу на выхаваўчыя моманты на ўроках літаратуры.

Гаспітаваныя ўрокі сведчаць аднак і аб тым, што ў рабоце некаторых настаўнікаў ёсць недахопы. На паніжэнне ў некаторых вучняў ведаў па беларускай мове, як гэта сказана на пачатку, меў вялікі ўплыў недахоп падручнікаў па літаратуры і школьных дапаможнікаў. Але пэўны недахоп назіраецца і на ўроках мовы, падручнікамі да якой былі наогул вучні поўнасцю забяспечаны. Пераважная колькасць наведваемых мною ўрокаў мовы сведчыць аб тым, што па-ранейшаму вывучаем правілы, а моўны матэрыял выкарыстоўваецца толькі ў якасці прыкладаў да адшукання гэтых правіл. А вядома, неаднаразова нашыя настаўнікі самі гаварылі на метадычных канферэнцыях, трэба рабіць наадварот: вывучаць моўны матэрыял, звяртаць увагу на паасобныя словы, іх сэнс. Граматыкай вучні павінны авалодаць практычна.

Асабліва неабходна такая работа ў V—VIII, класах, У гэтых класах сама праграма накіроўвае настаўнікаў на практычнае авалоданне мовай. Расказы з жыцця дзяцей, адказы на пытанні, складанне планаў, маленькіх апавяданняў з выкананнем граматычнага задання, пісьмо да таварыша, заметка ў сценгазету — на аснове ўсяго гэтага трэба таксама вывучаць граматычныя правілы. Няма ніякага сэнсу вывучаць усе правілы, ці словы і іх формы напамяць. Слоўнікавы запас вызначае пісьменнасць вучняў. У канчатковым выніку **пісьменнасць з'яўляецца самай важнай мэтай вывучэння кожнай мовы ў школе.** Вядома, нельга адмовіць ролі граматыкі, якая дапамагае ўсведамляць нормы літаратурнай мовы, развіваць лагічнае мышленне. Усе мы настаўнікі ведаем, што граматычных правілаў мноства, да кожнага правіла ёсць яшчэ шмат выключэнняў з правілаў. А ўсё ж аднак ведаем і тое, што ад колькасці вывучаемых правілаў не залежыць пісьменнасць чалавека. Зразумела, што ёсць такія правілы, якія неабходна вывучыць: правапіс о, э, ё, я, тэарэтычнае вызначэнне часцін мовы і г.д. Але ж часта па гэтаму прынцыпу мы вывучаем і чыста практычныя правілы, прымушаем вучняў вызубрываць іх. І што цікава, дыктант вучні яшчэ наогул правільна пішуць. А вось ізлажэнне, сачыненне, пераклад з беларускай на польскую мову ці наадварот — справа горшая.

Што рабіць нам выкладчыкам мовы?

(Працяг на стар. 4)



Беластоцкія пашы. Фота: В. Рудчык

ПЕРАД З'ЕЗДАМ ЗМС

# МАЛАДЫЯ НЯЎСТУПЧЫВЫЯ

ZMS

У студзені 1968 года пачне працу чарговы IV з'езд Саюза сацыялістычнай моладзі (ЗМС). Мае гэта быць з'езд вельмі важны ў жыцці арганізацыі. Нельга сказаць, што III з'езд быў няважны, але гэты, да якога рыхтуецца ЗМС, мае прыняць новую праграму дзейнасці арганізацыі, якую трэба будзе рэалізаваць даўжэйшы час, на якой у асноўным будуць абапірацца наступныя з'езды. Апрацаванне новай праграмы дзейнасці арганізацыі перад усім патрабуе жыццё, сучаснасць. Зараз у гуртках ЗМС, на канферэнцыях і нарадах актыву заканчваецца дыскусія над «Тэзісамі перад IV з'ездам ЗМС». Дыскусія, на колькі вядома аўтару, была надта шырокая, ад моладзі ўплыло шмат прапаноў адносна працы самой арганізацыі і звязаных з ёю установ і прадпрыемстваў. Дыскусію ў ЗМС, з поўнай адказнасцю можна назваць **размовай аб справах усяе польскай моладзі.**

Сёння хочацца пазнаёміць чытача з прапановамі і заўвагамі **«зэтэмэсоўскай» школьнай моладзі Беласточчыны**. Голас гэтай моладзі вельмі істотны на Беласточчыне, і Ваяводскае праўленне ЗМС як найбольш бярэ гэта пад увагу. Справа ў тым, што ў ваяводстве існуе аж **453 школьныя гурткі ЗМС,** што фактычна **першую падрыхтоўку да грамадскай працы вырабляе моладзь іменна тут у школьнай арганізацыі.**

Дык што ж хвалюе гэтых членаў арганізацыі?

Ляжыць перада мною спісак прапаноў, якія склала школьная моладзь, якая была ў летніх лагерах ЗМС. Спісак вельмі доўгі. Як паінфармаваў мяне кіраўнік Аддзела школьнай моладзі ЗВ ЗМС тав. **Я. Зенюк,** колькасць прапаноў **вынесла 134.**

Зразумела прывяду як прыклады толькі некаторыя з іх (і можа не найбольш «моцныя») на тое хаця б, каб паказаць шырокі кругагляд моладзі. Моладзь з агульнаадукацыйнага ліцэя **ў Міхалове** ставіць пытанне: «Цесна ў інтэрнаце, па 20 чалавек у пакоі, чаму не рамантуюць старога будынку прызначанага на інтэрнат. Дагэтуль у інтэрнаце няма вады». Моладзь аднае з прафесіянальных школ Беластока дамагаецца, «каб святліцу ў інтэрнаце зрабіць даступнай для ўсяе школьнай моладзі, а не толькі інтэрнацкай». Іншая група ЗМС-оўцаў прапануе «прадумаць праграму вучобы ЗМС у радыё і тэлевізіі». Гэтая ж група далей гаворыць, «каб ЗМС больш актыўна ўключаўся ў акцыю пабудовы школ і інтэрнатаў, пастулаваў, выконваў працу грамадска і частку фонду з ОГП пераказваў на гэтую мэту». Больш вострае, — таму хіба, што балючае, — сцверджанне паходзіць ад удзельнікаў лагера, якія пішуць: **«У Эканамічным тэхнікуме ў Беластоку** няма танцавальных вечарын. Чаму? Ці ж моладзь гэтай школы не заслугоўвала б на гэта? Калі дырэкцыя школы баіцца дадатковай працы, дык школьнае праўленне ЗМС усю адказнасць за арганізаванне вечарыны бярэ на сябе». **Моладзь з Бельска** хацела б «пры дапамозе гарадскіх улад пабудаваць купальны басейн». Знаходзім і больш адважныя фармуліроўкі, як, напрыклад: «Сцвярджаем, што ў некаторых установах нашага Саюза ёсць заслаба павязаны і прадстаўлены інтарэсы моладзі. Старшыні Павятовых праўленняў у некаторых выпадках прамоўчваюць просьбы сваіх членаў, не хочуць настройваць супраць сябе партыйных і адміністрацыйных улад свайго павета. Гэта можа адсунуць членаў ЗМС ад сваіх улад».

Як вышэй сказана, прыклады можна множыць. Але не ў гэтым справа. Прыведзеныя прыклады і так сведчаць у пэўнай меры аб тым, што моладзь хвалюе, захапляе, куды яна імкнецца. Нават не праверыўшы іх на месцы здаецца, што яны ўзяты з жыцця. Бо ці ж не здараецца так у школах, што калі нельга вызначыць настаўніка на дыжурнага — вечарына не адбудзецца? Ці не здараецца так, што фактычна **старшыня Павятовага праўлення ЗМС справы арганізацыі ўладжвае з дырэктарам, а не са старшынёй школьнага праўлення?** Урэшце трэба памятаць і аб тым, што **ў школах знаходзяцца паўнапраўныя грамадзяне дзяржавы, якім па 19—20 год і якія карыстаюцца роўнымі правамі і роўнаю адказнасцю,** якіх не толькі не трэба пільнаваць як дзяцей, але якія могуць узяць на сябе поўную адказнасць за пэўныя пачынанні ў школе.

Прапановы беластоцкай моладзі маюць быць разгледжаны да канца года. Добра было б, каб сустрэліся з імі прадстаўнікі асветных улад, напр. каб адказаць вучням з Міхалова.

**А. Карпюк**

# З КОНКУРСУ МАСТАЦКАГА ЧЫТАННЯ



**Як мы ўжо інфармавалі, нядаўна ў ГП БГКТ адбыўся конкурс мастацкага чытання для школьнай моладзі, прысвечаны 50-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. На здымку пераможцы конкурсу з Белавежы.**

**Фота: Ул. Паўлючук**

НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СПРАВЫ




Польскі літаратурна-грамадскі тыднёвік «Жыце Літэрацке» публікуе цыкл публіцыстычных матэрыялаў — **«На тэмы сучаснасці».** У нумары «Жыцця» ад 15 кастрычніка апублікавана разважанні Юзэфа Ліпца — «Польскі касмапалітызм». Памінаючы спецыфічныя сцверджанні, Ліпец даў даступную характарыстыку касмапалітызму наогул.

«Калі касмапалітызм замяняе нацыянальную ідэалогію ў свядомасці хаця некаторай часткі грамадскасці, сілы нацыі слабеюць. **Касмапалітызм з'яўляецца хваробай свядомасці нацыі... (-ся)**

Кім з'яўляецца касмапаліт? Ці хоча, ці не хоча, ці свядомы таго або не — а найчасцей не — касмапаліт з'яўляецца членам сваёй нацыі. Нейкая нацыя яго нарадзіла, выхавала і дала яму есці. Касмапалітызм аднак жа мае свой змест... Прапагаваны членам вялікай і моцнай нацыі касмапалітызм з'яўляецца звычайным, аголеным нацыяналізмам. Нацыяналізм, што прапагуе хвалу толькі ўласных вартасцей, выказваючы інтарэсы толькі сваёй нацыі. Касмапаліт заклікае: кіньце сваю мову і аддайце зямлю — наша культура з'яўляецца лепшай, а сіла большай... Забудзьце, хто вы і пачынайце новае жыццё, як мы, толькі мы!

Касмапалітызм людзей нацыі беднай і слабой з'яўляецца маніфестацыяй рэзігнацыі і супрацьпатрыятычнага настаўлення... Касмапалітызм з'яўляецца ідэалогіяй манны з неба. Дапоўненая яна своеасаблівай геаграфіяй: перакананнем аб падзеле неба на зоны з маннай і месцы, адкуль толькі крапаціць дождж, і ламоча град... Касмапалітызм з'яўляецца ідэалогіяй нявольнікаў, што мараць аб вызваленні, і вызваленых, што мараць аб тым, каб забылі, адкуль яны паходзяць. Паходзяць адтуль, з тых вёсак, з тых «местаў», і гэта з'яўляецца найбольш нікчэмным у касмапалітызме, бо саромеецца ўласнай маці.

...Касмапаліт не мае айчыны, бо альбо зусім не працуе, альбо працуе не для яе дабра... Рэальны саюз з нацыяй, што стварае супольная праца на супольнай айчыннай гаспадарцы, вядзе да свядомай акцэптацыі — іначай кажучы да патрыятызму. Касмапаліт пазбаўлены патрыятычных пачуццяў — бо адкуль жа яны маюць брацца ў яго? Будучы толькі кансументам — свет разумее ён праз кансумпцыю. У цяжкай працы ствараючы грамадскія багацці сяляне і рабочыя, настаўнікі і інжынеры, маюць невялікія шанцы стацца касмапалітамі; яны вымушаны былі б запярэчыць самым сабе, чым ёсць і што робяць. Працоўны чалавек добра ведае, дзе яго айчына — яна там, дзе канцэнтруе свае штодзённыя намаганні. Касмапаліт не мае айчыны, ні гэтай прыроджанай, ні нават той — жаданай і купляемай. З'яўляецца чалавекам чужым у кожным грамадстве, бо і тут, і там, дзе толькі жыве чалавек, жыве дзякуючы сваёй працы».

Наконт польскага касмапалітызму Юзэф Ліпец м. ін. заўважае: «Ашаломленыя такім адкрыццём розныя дамарослыя касмапаліты слалі па часе благальныя пісьмы да Маткі-Польшчы — каб прабачыла ім. Касмапалітызм марнатраўных сыноў з'яўляецца дзіцячай хваробаю, а дзецям шмат у чым прабачаем; як і наогул кожнай шчырасці. Не хочаш быць палякам? Аддай, што ўзяў — і калі ласка — перамалюйся на які хочаш колер. Найноўшыя законы не караюць самазабойцаў. Але таксама не ўзнагароджваюць.

У сучасных грамадскіх і палітычных умовах касмапалітызм з'яўляецца люксусовай гульнёю. Асабліва, у краіне... якой сам лад пярэчыць духу касмапалітызму. Касмапалітызм з'яўляецца не толькі анты-патрыятызмам, але таксама і перад усім з'яўляецца анты-сацыялізмам... тым больш небяспечным, што сочыцца памаленьку і цяжка злавіць яго за руку». (С.Я.)

У ПОШУКАХ ШЧАСЦЯ




Збіранне бульбы, як ніводная іншая праца, захавала свой ручны, незмеханізаваны характар. Пры збіранні бульбы можна свабодна размаўляць з суседкамі, можна было б нават супольна спяваць сабе песні.

На Максімавым полі песні аднак не спяваюцца. Адбываецца затое праз увесь дзень асаблівая канфрантацыя, параўноўванне майго жыцця, маіх радасцей, турбот, майго шчасця і няшчасця — з жыццём іншых людзей. Праз увесь дзень на Максімавым полі разглядзіцца дзесяткі розных чалавечых гісторый, дзесяткі прыкладаў часта дзівосных і незвычайных, разгледзіцца іх з розных бакоў і параўнаецца з уласнымі ўяўленнямі аб жыцці чалавечай справядлівасці і годнасці.

— Скажаце вы, то ж у гэтай Нінчынай сястры такое дзіва. Хадзіў, хадзіў да яе адзін з вёскі і кінуў. Прыехаў другі з Беластока, тут жа і ажаніўся. Сабраліся госці, селі за стол — робяць вяселле. Сваты, сваякі, малады, маладая — усё як трэба. Толькі яны селі за стол, маладая кажа: я выйду на хвілінку, мне нешта нядобра. Вышла, ды няма яе і няма. Пайшоў малады шукаць яе. Глядзіць, а яна ўжо ляжыць і дзіця родзіць. Схапіў малады шапку і чым хутчэй у ногі. І госці разышліся. Вось на чым кончылася. Жыве цяпер адна з дзіцём.

— Нашто ж ужо было ёй выходзіць за другога, калі ў такім стане.

— Але і мужчыны, скажыце, якія халеры: ходзіць, ходзіць, ды і кіне. Чаго ж тады ўжо лазіць, калі не падабаецца.

— То, мужчыны! Цяпер народ распусны, ведаеце, не тое, што калісь. Во, паглядзіце, як жыве Мікалай Доўгі: страціў жонку, калі меў 30 год — трое дзяцей і такая гаспадарка — то ж не ажаніўся. «Дзяцей, — кажа, — шкада. Другая жонка пачне крыўдзіць». І так пражыў неяк.

— Таксама нейкая дурнота надыдзе на чалавека, як і той яго Верцы: чаго ёй не хапала? Ды раптам захацелася павесіцца. Хіба з пяць разоў здымаў яе з вяроўкі, начамі і днямі пільнаваў — у канцы такі павесілася.

Гісторыі дзіўныя, часам страшныя і макабрычныя. Разбор іх прыносіць аднак нейкую асаблівую прыемнасць: аказваецца, што не так ужо дрэнна — ёсць на свеце справы горшыя ад маіх, людзі дурнейшыя, праблемы больш бязвыхадныя, ёсць няшчасці і прыклады да наследвання.

Канфрантацыя на разораным бульбянііску мае і іншы яшчэ характар. Цётка з горада, якая прыехала на два дні дапамагчы збіраць бульбу, супрацьстаўляе вясковаму стылю жыцця гарадскія радасці і прыемнасці.

— Ну і цырк у гэтым годзе прыехаў, яшчэ такога не было. Я ледзь не лопнула, як комікі пачалі даказваць. Кажа адзін другому, давай будзем біцца, насадзіў рукавіцу другім бокам, ды...

— Ерунда там твой цырк! Вось у нас штодзень лепшы цырк, як Федзя пачне сваю жонку ганяць кругом хаты.

А бабулі далікатна, але заўзята ліцытуюць сваіх унукаў: чый прыгажэйшы і разумнейшы.

— Ой, наш Артурэк ужо многа разумее, усё, што не скажаш яму — разумее.

— Што вы яго ахрысцілі так брыдка, я нідзе такога і не чула.

— Гожа, па-гарадскому, гэта толькі дахтары, ды адвакаты так называюцца — Артур.

— Цьфу! Выгаварыць цяжка: Ртурэк, — чорт ведае што.

— Гожа называецца і дзіця само гожае. Чорны, чорны і валасы і бровы і вочы.

— На вёсцы то б сказалі, што нейкае дзіця не сваё, а цыганскае, калі ён такі чорны.

— Што там вёска, ён не жыве ў вёсцы, ён жыве ў горадзе.

— Але чорны чалавек хутка сівее і хутка старэецца. Наша Ніначка ясненькая, валасы больш пасуюць.

На разораным бульбяніску прадоўжваецца канфрантацыя. Мае яна тут яшчэ характар канкрэтнасці — датычыць рэальных вядомых прысутных асоб і фактаў. У горадзе паступова замяняе яе канфрантацыя ў адносінах да выабстрахаванняў, фікцыйных герояў з фільмаў, тэлевізійных перадач, мастацкай літаратуры і постацей з масавага, шматтыражнага друку.

**Рыгор Паўлюк**

**СЯДАЙЦЕ, ЕДЗЕМ**

# „Бальшой“ з Масквы ў „Велькім“ у Варшаве

Ад 10 снежня ў Вялікім тэатры ў Варшаве будзе гасцінна выступаць Вялікі тэатр оперы і балету з Масквы.

Што і калі будзе даваць?

10.XII. — «Пікавая дама» Чайкоўскага і «Невядомы салдат» Малчанава.
13.XII. — «Аповесць пра нябачаны горад Кіцезю» Рымскага-Корсакава.

14.XII. — «Пікавая дама».

17.XII. — «Аповесць пра нябачаны горад Кіцезю».

Хто хоча паехаць і пабачыць, калі ласка, у рамах нашай акцыі «Сядайце, едзем», звяртайцеся ў «Грамаду».

Адрасы: **Экспазітура «Грамады» ў Сямяцічах, Пляц Вызвалення 17,** або **Аддзел «Грамады» ў Беластоку, Варшаўская 38.**

Заказы прымаюцца групова і індывідуальна, пісьмова, асабіста і па тэлефоне. (вл)

**Беларусіяна**

# ПАДБОРКА

Люблінскі часопіс «Камэна» (№ 20) змясціў падборку вершаў савецкіх паэтаў у перакладзе Казімежа Анджэя Яворскага, вядомага польскага перакладчыка савецкай літаратуры.

У падборцы гэтай змешчана верш Максіма Танка, выдатнага беларускага паэта. (ся)

(Працяг са стар. 1)

# БЕЛАСТОЦКІЯ ЗАЛЕЖНАСЦІ

сюль вынікаюць істотныя магчымасці паляпшэння ўраджайнасці палёў. Вось такія, скажам, нашы беластоцкія з а л е ж н а с ц і. І перспектывы.

**Нашым Чытачам цікава ведаць, як выглядае ваш звычайны працоўны дзень? Напрыклад, учарашні.**

Учора я выйшаў са свайго бюро а шостай гадзіне вечара. Ад гэтай гадзіны пачаўся мой вечар — як гаворыцца — у хаце, у сям'і, які правёў на падрыхтоўцы матэрыялаў на заўтрашняе пасяджэнне Бюро Камітэта па справах сельскай гаспадаркі пры КВ ПАРП. А як прайшоў дзень? Баюся, што вылічванне будзе нуднае Чытачу: ад раніцы меў важную сустрэчу з дырэктарам Сянько з Дырэкцыі сельскагаспадарчага будаўніцтва, потым — падобную як мы называем, рабочую сустрэчу з дыр. Данцэвічам з Ваяводскага аб'яднання ПГР, потым сустрэчу з дыр. Сяргеем з Прадпрыемства забеспячэння сельскай гаспадаркі вадою (ёсць такое прадпрыемства); затым, недзе пад абед, сустрэча з сакратаром партыйнага камітэта ПАРП пры ВРН, звязаная з рэалізацыяй пастаноў IX Пленума ЦК ПАРП. Паміж адными а другімі сустрэчамі і нарадамі, што цягнуліся дапазна, прымаў я розных людзей, што прыходзілі з самымі рознымі справамі і патрэбамі. Словам, дзень вельмі кароткі

**Дзякуючы за размову — і ад імя «Нівы» і яе Чытачоў сардэчна віншую вас з выбарам на адказную пасаду намесніка Старшыні прэзідыума Ваяводскай рады ў Беластоку.**

Дзякую.

Размаўляў
— **Сакрат Яновіч**

(Працяг са стар. 1)

# Каб палепшыць вучэнне бел. мовы



**Ніна Вішнеўская ў час размовы з намеснікам інспектара Сяргеем Бароўскім.**
Фота: А. Карпюк

Трэба пачынаць з асновы мовы, яе слоў. Трэба даваць вучням больш самастойных творчых работ. А можа паспрабаваць, як у мінулым годзе падказвалі некаторыя настаўнікі, рабіць таблічкі са словамі цяжкімі да напісання, з выдзеленымі літарамі?

Вельмі рэдка займаемся пісьмом і моўнай работай на ўроках чытання. Я сама, на заўвагу, чаму не даеце вучням самастойных работ, чула адказ: «ведаеце, так дрэнна пішуць, што баюся ім даваць сачыненні». Назіраю, што вучні калі і пішуць сачыненні, то калі на літаратурныя тэмы, дык яшчэ яны напісаны так сабе, бо ў іх можна карыстацца кніжнымі фразамі, а калі на тэмы з жыцця школьнікаў, сачыненні атрымліваюцца наогул слабымі. Гэта абазначае, што мы і далей засушваем мову кніжнымі фразамі, мала праводзім работ з цікавымі падзеямі і фактамі з жыцця школьнікаў. Напр.: Як дапамагаю бацькам, Мой любімы занятак, Як нашая школа адзначала 50-годдзе Вялікага Кастрычніка і г.д.

Для паляпшэння выкладання беларускай мовы вельмі многа дасць змена сістэмы апытання і ацэнак на ўроках. Нават калі апытваем вучня ля дошкі, мусім прыцягваць да работы ўвесь клас, каб адзін вучань даў прыклад, другі паўтарыў сказанае, трэці працягваў далей расказваць, чацвёрты папраўляў і г.д. Гэта будзе актывізацыя класа і такім чынам будзем трымаць усіх вучняў у рабочым напружанні. Трэба арганізаваць апытанне і работу з класам так, каб на кожным уроку было пастаўлена 6—10 ацэнак. Вось тады адзнака будзе стымулам і прымусіць вучняў удзельнічаць у рабоце класа.

**Ніна Вішнеўская**
кіраўнік метадычнага цэнтра у Гайнаўцы

# Прыемнае і... карыснае



І зноў трэба напісаць мілае пра беларускі ліцэй у Бельску. Фотарэпарцёр не мог прайсці міма такой карцінкі, як на здымку. Вучаніцы XIa гэтага ліцэя, пад кірункам настаўніцы фізкультуры Марыі Красоў, працавалі пры пабудове спартыўнай пляцоўкі. Як бачым на здымку, фіззарадка ўсебаковая, а карысць і прыемнасць з выканання грамадскай працы пэўна вялікая.

Дырэкцыі гэтага ліцэя вялікае брава за дасканалую думку выкарыстання фізкультурных заняткаў.

Тэкст і фота: **Юзэф Рыбінскі**

# БЕЛАРУСКАЯ ініцыятыва

Беларускай ініцыятывай можна назваць артыкул А. К. Васькевіча, змешчаны на старонках уплывовага літаратурнага часопіса **«Творчасць»** (№ 10). Назва артыкула — «Polscy poeci rosyjscy».

Гэты вядомы публіцыст, між іншым, піша ў сваім артыкуле:

„Ze strony pisarzy rosyjskich mieszkających w Polsce padła propozycja, aby w którymś z wydawnictw państwowych stworzyć dział literatury obcojęzycznej (chodzi głównie o książki w językach: rosyjskim, ukraińskim i białoruskim). Te środowiska legitymują się sporymi osiągnięciami. Produkcja chałupnicza nie odbija się dobrze ani na poziomie edytorskim, ani artystycznym. Wydawnictwo Łódzkie tomikiem Kocznowa zrobiło pierwszy wyłom (...)

Pisarze rosyjscy, ukraińscy i białoruscy mieszkający w Polsce nie powinni być poza marginesem naszego życia literackiego. To, co pisał o Białorusinach Wiktor Rudczyk („Twórczość", nr 2/67), jest także aktualne w odniesieniu do pisarzy rosyjskich.

Ci pisarze, mimo że tworzą w językach narodowych, w sposób istotny wzbogacają polski dorobek kulturalny".

Васькевіч прааналізаваў сітуацыю ў нацыянальнаменшасным рускім літаратурным асяроддзі, апіраючыся на інфармацыях рэд. П. Юр'ева, кіраўніка рускага культурнага руху ў Польшчы. Свае вывады абгрунтаваў на вывадах Віктара Рудчыка, які пісаў аб беларускім літаратурным руху ў Польшчы. Для яснасці варта дадаць, што — скажам — з беларускага боку ўжо ў мінулым годзе роблена пэўныя афіцыйныя захады ў справе магчымасцей выдавання кніжак мясцовых беларускіх аўтараў у Люблінскім выдавецтве. Як аўтарытэтна сцвердзіў дырэктар таго выдавецтва, п. Касьмінскі, **такія магчымасці ёсць.**

Пакуль што пры дапамозе Беластоцкага таварыства культуры выдадзена двухмоўны зборнік паэзіі «Кшталты мысьлі», у якім змешчана творы на беларускай мове. Здарылася гэта пад канец мінулага 1966 года.

Несумненна, даспела ўжо тая хвіля, калі трэба ўсур'ёз старацца аб стварэнне саліднай паліграфічнай базы для беларускай (і іншых) літаратурнай творчасці, без чаго нельга гаварыць (усур'ёз) аб перспектывах для гэтай творчасці. Усё, што дагэтуль зроблена, Васькевіч не без рацыі называе с а м а т у ж н і ц т в а м — «халупніча прадукцыя». (С.Я.)

# ПАНЯЦЦЕ „СІЛЫ" Ў БЕЛАРУСАЎ

На прыкладзе народнага разумення «сілы», як на ніякім іншым прыкладзе, можна аналізаваць цікавую з'яву: спалучэнне ў адным паняцці фізічных і магічных якасцей.

Сіла ў разуменні народа, у разуменні людзей, якія ніколі не мелі дачынення з кніжнымі ведамі, так як і ў разуменні сучасным адукаванага чалавека, была між іншым фізічнай якасцю. Сілаю абдараваны быў конь, які цягне цяжар, вецер, які варочае дрэвы, чалавек здольны да цяжкай працы і г.д. Аднак гэтае чыста механічнае, можна б сказаць, матэрыялістычнае разуменне сілы спалучалася ў беларусаў з перакананнем магчымасці свабоднага пераходу з аднаго аб'екта на другі выклікана магічнымі спосабамі. Звязана гэта было з тым, што сіла ў народным разуменні «матэрыялізавалася», трактавалася не проста як якасць, рыса рэчаў «сільных», але як прадмет, як своеасаблівы створ на паўматэрыяльны і на паўдуховы.

Вядома, што ў некаторых раёнах Беларусі пасля жніў сялянкі качаліся па пожні паўтараючы: «Ніўка, ніўка аддай маю сілку». Верылі прытым, што такім чынам механічная сіла, якую выдалі яны падчас жніў, вернецца да іх назад. Сіла мела сваю вагу. Не так даўно аўтару прышлося пачуць вясковую размову на тэму: ад чаго залежыць вага чалавека. Размоўцы дайшлі да вываду, што «гэта сіла важыць у чалавека». Сіла прадоўжвала сваё існаванне незалежнае ад прадметаў будучых «сільнымі».

Механічныя катэгорыі сілы і яе спецыфічныя ўяўленні не вычэрпвалі аднак гэтага паняцця. Сіла паводле народнага разумення была рысай, ці больш за ўсё мітычнай істотай усялякага дзеяння. Не так даўно аўтару прышлося слухаць аднаго старэйшага селяніна, які выказваў думку, што найбольш «сілы» ў... солі. Логіку гэтага селяніна можна пераказаць так: ад солі не псуецца мяса, гінуць ўсялякія паразіты, на пасоленай глебе лепш расце трава і ўрэшце, што асабліва падкрэсліваў селянін, калі ўсыпаць да пастаўленага на стале кубка солі са снегам, ды размяшаць, кубак прымерзне да стала.

Сілу мела слова, магічнае, таямнічае слова - закляцце. Магла гэта быць добрая, карысная сіла, як і дрэнная сіла чараўніка. Словы-закляцці чараўнік кідаў не толькі на людзей. Паводле вераванняў беларусаў, рабіў ён гэта часам вось так, для гульні: кідаў закляцці « на вецер». Вандравалі яны тады з ветрам і кідаліся на таго, каго сустрэлі па дарозе, калі ж не сустракалі нікога — уваходзілі ў прыдарожнае нейкае дрэва, якое неўзабаве сохла. Сяляне баяліся такіх сухіх дрэў, бо сіла чараўніковага закляцця магла накінуцца на іх.

Сілу меў перад усім чалавечы зрок. Была гэта найчасцей дрэнная сіла. Калі чалавек з такім «сільным» зрокам глянуў на дзіцё, незалежна ад яго жаданняў, дзіцяці пачынаў балець жывоцік, калі глянуў на поле — збожжа перастава расці, на карову — перастава даваць малако і г.д. Асабліва «сільным» зрокам абдараванымі мелі быць ілюзіяністы «чмуцяры», аб якіх ёсць многа легендаў у народзе. Дагэтуль пануе перакананне, якое не мела нічога супольнага з праўдаю, што ілюзіянер у час свайго сеансу мусіць усіх бачыць, калі б нехта схаваўся за сценку або за печку — убачыць увесь фальш яго штучак. «Чмуцяр», паводле народных перакананняў, не можа праводзіць сваіх сеансаў, калі ў зале ёсць другі чалавек з «сільным зрокам». «Чмуцяр» мае выпрошваць з залы такога перашкаджаючага яму гледача.

Цікавы змест народных паняццяў збліжаных да паняцця сілы. Быў ім між іншым «спарыш», або «спор» — у значэнні «спеху», «паводзін» (работа «спорыцца» або «няспорыцца»). Этнограф Машынскі ў артыкуле прысвечаным гэтаму паняццю надрукаваным у часопісе„Lud Słowiański" (Kazimierz Moszyński. Białoruski spor i sparys." Tom

 

# ЦІ ЛІЧЫМСЯ МЫ З ПАЖАРАМІ?

Ці лічымся мы з пажарамі? Такое запытанне насоўвалася многім у час апошняй сесіі Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку, на якой разглядаліся, між іншым, і пажарніцкія справы.

Аказваецца, няшмат зроблена, каб пазбягаць таго вялікага няшчасця, якім з'яўляюцца пажары. Асабліва, у нашых вёсках рэдка дзе існуюць водныя басейны, якія вельмі патрэбны для хуткага гашэння пажараў. Трэба памятаць, што нашы вёскі ўсё яшчэ саламяна-драўляныя. Прытым, даходзіць новая цяжкасць — гэта электрыфікацыя. Электрычная інсталяцыя ў хаце з'яўляецца вялікай дабрадзейнасцю, але ў выпадку пажару — пераўтвараецца яна ў няшчасце. Электрыфікаванай хаты нельга гасіць, пакуль не адключана электрычнасць. Паліванне вадою па дратах, па якіх плыве электрычнасць, пагражае калі не смерцю дык калецтвам. Тым часам аказваецца, што ў вёсках няма людзей, якія ў выпадку пажару, маглі б хутка адключыць электрычнасць. Мо дзе-нідзе і знайшліся б такія людзі, але яны не маюць права ўлазіць на слуп — да гэтага ўпаўнаважаны толькі штатныя працаўнікі энергазбыту ці нават пажарніцкай службы. Вядома, пакуль такія штатныя працаўнікі дабягуць або даедуць да пажару, можа быць ужо па ўсім...

Але вернемся да справы стварэння запасаў вады для патрэб пажарніцкай службы. У Беластоку падлічылі, што аж 491 вёска не мае такіх запасаў, не мае ніякіх басейнаў ці рэзервавых калодзежаў. Гэты лік вёсак датычыць у першую чаргу такіх паветаў, як — Гайнаўскі, Бельскі, Сакольскі. Лікі гэтыя тым больш страшныя, што менавіта ў тых паветах найбольш хат, пакрытых саломаю. Апрача таго, як бы на дадатак цэлай гэтай нешчаслівай сітуацыі на Сакольшчыне або на Гайнаўшчыне — зрэшты не толькі там — завёўся дзіўны звычай ліквідацыі начных вартаў увесну і летам, калі найбольшая небяспека неспадзяваных пажараў з увагі на сухую пагоду. Вядома, нагрузка палявых і жніўных работ у полі не спрыяе добрай арганізацыі начных вартаў, але трэба гэту справу паставіць на агульных вясковых сходах, каб усе зразумелі, што ў найбольш працавіты для вёскі час існуе адначасова найбольшая небяспека пажараў. Не думаю, каб да справы начных вартаў людзі аднесліся лёгкадумна. Проста няма каму дапільнаваць і сарганізаваць адпаведна іх.

На гэтай жа сесіі Ваяводскай рады меў прамову і беластоцкі пракурор. Звярнуў ён увагу на факт частых пажараў у розных дзяржаўных аб'ектах, асабліва, гандлёвых — у розных магазінах, складах, нават крамах. Памінаючы крымінальныя часамі прычыны пажараў у такіх аб'ектах, вынікаючыя з крадзяжу, пракурор заўважыў, што працаўнікі наогул не ўмеюць паслугоўвацца рознымі гасілкамі, коцамі, што вісяць на сценах. У выніку маем дачыненне са значнымі стратамі, вынікаючымі не толькі з самога пажару. Інтэрвенцыя пажарнікаў адбываецца, пераважна тады, калі пажар ужо добра «разгарэўся». Гасілкі ёсць па тое, каб гасіць пажары на самым пачатку — тым часам, дапускаецца да таго, што пачынае гарэць усё, гасілкі таксама.

Бываюць пажары з прычыны дзяцей. Пакінутыя без нагляду малышы раскладаюць агонь або гуляюць запалкамі. Кажам, што пажар зрабілі дзеці. Але, так напраўду падумаўшы, дык невядома, хто тут больш вінаваты: ці дзеці, ці іх бацькі, дарослыя людзі. Практыка паказвае, што вытлумачэнне дзіцяці ўсіх небяспечнасцей ад гульні агнём можа адхіліць не адно няшчасце. У час важных палявых работ не заўсёды ёсць каму пільнаваць дзяцей, таму трэба заняцца выхаваннем іх, усведамленнем ім гэтых спраў, скажам, у зімовы перыяд, калі маем час пагаварыць сардэчна і спакойна.

На сесіі гаварылася і аб несаліднасці камінараў, якія адно ўмеюць браць грошы, — замест добра пачысціць комін і, так званыя, люхты. Пажары ўзнікаюць не толькі ад сажы ў коміне, але таксама ад вялікай колькасці сажы ў «люхтах». Несалідныя камінары карыстаюць з таго, што людзі не хочуць спрачацца з імі, без пратэсту плацяць пару залатовак за нібы-пачышчаны комін.

З усяго таго, што сказана, вынікае, што мы ўсё такі замала лічымся з пажарамі. Хаця і ведаем, што бог агню бязлітасны!

(С.Я.)

## Выстаўка — кірмаш савецкай кніжкі



У канферэнцыйным зале Куратарыюм у Беластоку, вул. Рынак Касцюшкі можна глядзець выстаўку-кірмаш савецкай кніжкі, арганізаванай «Домам кнігі» ў Беластоку. Тут можна таксама купіць самыя цікавыя і рэдкія выданні і кніжныя навасці, напрыклад, зборнік Васкрэсенскага, Яўтушэнкі. Асобны раздзел прысвечаны «Дзесяці дням, якія ўзрушылі свет». Гэта выданні аб Кастрычніцкай рэвалюцыі, а вышэйшы цытат паходзіць ад загалоўка кніжкі амерыканскага пісьменніка Джона Рыда, які на ўласныя вочы бачыў рэвалюцыю і апісаў яе ў сваёй слаўнай кнізе.

Вельмі многа і вельмі цікавых каляровых кніжак ёсць для наймалодшых дзяцей усіх узростаў. Цана невялікая. Усёй выстаўцы прысвячаюць словы Максіма Горкага:

«Усё, што ва мне найлепшае, дала мне кніжка». (вл)

На здымку: На выстаўцы.

Фота: Ян Мазурэк

I. cz. I. 1929 супастаўляе яго з паняццем «маны» — безасабовай сілы, якая выступала ў рэлігіях некаторых першабытных плямёнаў Акеаніі. Спарыш персаніфікаваўся народам у постаці Спешкі — спарышкі, якую Федароўскі залічаў да бажаствоў беларусаў. Пераказвае ён між іншым у сваім «Людзе беларускім» малітву беларусаў да Спешкі-спарышкі. Вось яна:

Ох! Спешка-Спарышка  
Прылеці да мяне  
Да з буйным ветрыкам  
На белым матылёчку!  
І дай Божа лёка  
І вечар недалёка  
А хто ўперад зачаў,  
Каб ён ззаду стрычаў  
А я апошня  
Каб была раскошна.

Такім чынам народнае разуменне сілы спалучае ў сабе рэальны фізічны свет з міфічным светам і светам магіі. Дакладнейшы аналіз гэтага паняцця можа стацца ключом да зразумення народнага светапогляду, які не знаў выразнага і вострага размежавання паміж светам матэрыі і светам ідэй.

**Ул. Паўлючук**

(ЗЛАДЗЕЙСКІ ФЕЛЬЕТОН)




Пакража коней з'яўляецца бадай што найдаўнейшай зладзейскай прафесіяй. Паслухайце старых дзядзькоў: раскажуць вам не адну жывапісную гісторыю пра канакрадаў.

Прыхільнікі гэтай прафесіі дахаваліся і да нашых дзён. Афіцыйна вядома (з міліцэйскіх паказанняў), што на працягу васьмі месяцаў гэтага года на Беласточчыне ў рукі канакрадаў папала 26 коней. Занятак для зладзеяў высокарэнтабельны. Добры конь каштуе зараз каля 15-ці тысяч зл.

Зладзеі не ганьбуюць і іншай жывёлінай: каровамі і свіньмі. Здараецца, што прыязджаюць на аўтамашынах. Што ж, механізацыя, відаць абавязвае таксама і ў зладзейскім свеце.

У некаторых зладзеяў прыхільнасць да тэхнікі так ужо закаранілася, што ахвотна крадуць матацыклы, замест коней. Матацыклаў у Беластоцкім ваяводстве налічваецца зараз каля ста тысяч. У клейкія рукі зладзеяў пападае іх у год каля сотні. Бывае, што такая пакража канчаецца аднак трагічна. Вось у Элку адзін злодзей схапіў матацыкл, праехаў поўным газам 200 метраў і разбіўся на смерць.

Да коней і матацыклаў неабходна яшчэ дабавіць хатнія пакражы. Найбольш іх у гарадах, але здараюцца і ў вёсках.

З міліцэйскіх назіранняў вынікае, што зладзеі прыязджаюць на лоўлі здалёк, вельмі часта з іншых ваяводстваў.

Паводле абавязваючага ў нас права нікому нельга без ведама солтыса нават пераначаваць чужога чалавека. Сяляне наогул абыякава адносяцца да гэтага абавязку. Часта, не вельмі ведаючы каго, пратрымоўваюць без прапіскі (мэльдунку) чужых людзей па некалькі дзён і больш. Здарылася ў Ломжынскім павеце, што нейкі тып гасцяваў у вёсцы каля двух тыдняў. За гэты час абрэзаў ён аж 60 конскіх хвастоў. Заработак добры, ежа дарэмная і ўласныя кошты зусім малыя.

Разважлівы злодзей найперш праводзіць дакладную разведку. Вось гэтыя пабыўкі ў вёсках без прапіскі дазваляюць добра разгледзець абставіны планаваных зладзейскіх мерапрыемстваў.

Нашы сяляне ў адносінах да людзей вельмі гасцінныя, дабрадушныя і наогул даверлівыя. Не сапсавала іх яшчэ сучасная цывілізацыя. Верацъ суседзям і верацъ іншым. Калі зачыняюць хлеў, клуню ці ўласную хату на замок, робяць гэта часцей для формы і для ўласнага спакою, чымсьці для забеспячэння перад узломам. За аднаго каня можна купіць сто добрых замкоў. Дык лепш купіць добры замок і абсталяваць моцныя дзверы, чымсьці патраціць каня.

Пакража матацыклаў здараецца найчасцей у час гаманлівых фэстаў. Ганаровы кавалер (значыць — амаль кожны) без матацыкла цяпер на фэст не адпраўляецца. Не мог бы разлічваць на поспех у дзяўчат. Накапляецца тады пад царквой, святліцай ці ля танцавальнай пляцоўкі дзесяткі, сотні двухколавых «карых» і «гнядых». Іх уласнікі п'юць, танцуюць, заляцаюцца, а яны (вядома — матацыклы) астаюцца бездапаможнымі.

Калі да гаспадара прыязджае госць з канём, гаспадар заўсёды знойдзе месца для госця за сталом, а для каня — у хляве над жолабам аброку. Гэты добры звычай пакуль што, на жаль, не перайшоў на матацыклістаў і матацыклы. Наадварот. **З матацыклам трэба паказацца, ганарыцца ім, каб усе бачылі.** Дык як жа хаваць яго ў клуні ці ў хляве! Аброку ён не патрабуе, найвышэй літровак дзве-тры бензіну, каб даехаць да хаты пасля вясёлага катання па завулках вёскі і па палявых дарогах. Зладзеі могуць тады таксама «гуляць» свабодна.

Коней памалу ў нашых вёсках падмяняюць трактары. Цікава, калі ў зладзейскім свеце паявіцца новая спецыяльнасць: **трактаракрад?** Дагэтуль міліцыя нідзе яшчэ не аднатавала пакражы стальнога каня. Самаходы крадуць, а як жа. У Беластоку ад пачатку гэтага года ўкралі іх 6. Але не здарылася, каб хтосьці пагнаўся на трактара. Відавочна зладзеі не вынайшлі яшчэ спосабу прадажы гэтага тавару. Бо цяжкасцей тут ніякіх для іх не было б. Гуртkоўскія трактары найчасцей стаяць пад голым небам.

**М. Нурэцкі**








**Паглядзіце на замешчаныя побач здымкі — шабліст, рыбалоў і сабака, а ўсё выканана вельмі простым спосабам з разнаформенных лясных карэнняў. Каб дайсці аднак да такой здольнасці кампанавання з форм створаных самой прыродай, трэба нямала нашукацца ў лясной глушы і трэба мець нямала мастацкага ўяўлення. Майстрам гэтага мастацтва з'яўляецца Юрка Геніюш, — па прафесіі лекар. Выкананы ім карэнныя постаці маглі б скласціся на добрую і цікавую выстаўку.**

**(п)**



 




**ПЛАН ПРАЦЫ НА II-ГІ КВАРТАЛ**

26.XI. — 3. XIII.: Алесь Савіцкі «Чырвоныя лыжы»; 10.XII.: Якуб Колас «Дзед-госць»; 17.XII.: Алесь Пальчэўскі «Лапці»; 24.XII.: Максім Багдановіч «Краю мой родны!»; Алесь Барскі «Першая беларуская газета»; 7.I.: Поля Гаявічынская «Смерць Ганкі Савіцкай»; 14.I.: Уладзіслаў Бранеўскі «Варшава адбудаваная»; 21.I.: Сяргей Грахоўскі «Горад на Дзвіне».

**ЧЫРВОНЫЯ ЛЫЖЫ**

Новыя лыжы бацька абяцаў даўно, яшчэ з восені. Гаворка пра іх пачыналася кожны раз, калі Генка падаваў яму свой дзённік.

— Паглядзім, паглядзім, якая табе ўзнагарода належыць за вучобу, — звычайна казаў бацька, гартаючы дзённік. — Зноў тройкі пасыпаліся. А ты хочаш лыжы!

— Купі ты лыжы, Антон, — рашуча стала маці на абарону Генкі. — Можа з таго і ідуць тройкі, што хлопец фізічна не развіваецца...

— Няхай на старых катаецца і вады табе паболей носіць, — сказаў бацька і дадаў: — Шосты клас хлопец канчае, а ў яго тройкі. Вунь нават і Волька смяецца...

Бацька ўзяў з калыскі малую Вольку, пачаў гушкаць, круціць на руках.

— Ну, а ты ў мяне калі да прафесара дацягнеш? Скора, мабыць. Нешта на Генку ў мяне слабая надзея...

Генку рабілася крыўдна ад гэтых слоў, і ён пакляўся, што ў яго дзённіку болей не будзе ніводнай тройкі і нават чацвёркі.

Зрабіць гэта было цяжка, але хлопчык дамогся свайго. Перад Новым годам ён паклаў на стол дзённік з пяцёркамі за чвэрць па ўсіх прадметах.

— Ты толькі зірні, маці, чаго дамогся наш прафесар! — радасна выгукнуў бацька. — Малайчына! — і ўзрушана дадаў. — А лыжы табе стаяць, сынок Даўно. Толькі правяраў я, ці можаш ты стаць чалавекам. Цяпер бачу: можаш!

Бацька пайшоў з хаты і хутка вярнуўся з лыжамі ў руках.

— Бяры! — урачыста сказаў ён. — Ты іх заслужыў.

Новыя лыжы пахлі фарбай, холадам. Генка асцярожна ўзяў іх у рукі. Вось гэта лыжы! А насы як загнуты! А блішчаць як! Не, гэткіх лыж не было ў яго ніколі.

Генкавы сябры прызналі аднагучна: лыжы цудоўныя. А Міхась нават сказаў, што на такіх лыжах і на алімпійскія гульні не сорамна паехаць і што ён бачыў на фотаздымку ў спартсменаў такія ж лыжы. Генка не аспрэчваў, разумеў, што за Міхасёвым прызнаннем хаваецца не толькі пачцівасць, але і зайздрасць. Пачуць такое было прыемна. Гэта ж праўда — лыжы хвацкія, Генка паставіць на іх калі не алімпійскі, дык звычайны рэкорд Забалоцця і пакажа, як трэба скакаць з трампліна...

Ехаць дамовіліся ў суботу, якраз на трэці дзень зімовых канікул. А ў пятніцу гэты план паламаўся ўшчэнт: маці надумалася мыць бялізну і сказала, што Генку трэба сядзець з малой Волькай. Але Генка ўсё ж рыхтаваўся да той паездкі: праверыў мацаванне на лыжах, добра памазаў іх. Ён усё яшчэ спадзяваўся на нейкія змены — часта так было, што маці заплануе з вечара адно рабіць, а раніцаю возьмецца за больш тэрміновую справу.

Але ў суботу ніякі іншы клопат маці не замінаў. На пліце грэліся вялізныя чыгуны, якія бацька напоўніў рачной вадой. Адно было нечаканым: маці папрасіла Генку пабегчы ў краму і купіць мыла. Генка прыняў гэта даручэнне ахвотна: па дарозе можна будзе заскочыць да сяброў і папярэдзіць, што ехаць у лес яму не выпадае.

— Не бядуй, — супакоіў яго Міхась

— А я і не бядую. Дома нявыкрутка, трэба памагчы маці...

— Вядома што. Другім разам паедзеш... Мне таксама сёння не вельмі і хочацца ехаць, бо гэтая Нінка прывязалася. Будзе цяпер стагнаць усю дарогу. На лыжах не ўмее, а просіцца...

— А яна ж казала, не паедзе!

— Хіба яе зразумееш? Сёння адно, а заўтра другое...

Генка не запытаў пра гэта ў Міхася. Ён увогуле ні пра што з ім болей і не гаварыў, а хуценька збегаў у краму і вярнуўся дамоў. Яго чакала снеданне.

Генка паснедаў, прыбраў на стале і зірнуў у акно. На сцежцы, што вяла з вуліцы да хаты, амаль подбегам шнураваў Міхась. Праз голле невысокага лапістага вішняку быў добра відаць яго ўзбуджаны і разгарачаны хуткай хадою твар. Генкава сэрца закалацілася. Мабыць, перадумалі? Ці адклалі паездку на вечар. І правільна! Што там рабіць у лесе зранку! Ён кінуўся ў сенцы сустракаць сябра, шырока адчыніў дзверы.

— Што, не паедзеце? Я ж казаў вам, што снег мокры. А пад вечар мароз будзе. Я радыё слухаў...

Генка сапраўды слухаў радыё, але зводкі пра надвор'е не чуў. Але хіба гэта не ўсё роўна! Вунь які туман вісіць!

— Чаму не паедзем? Паедзем, — сказаў Міхась, паціраючы кулаком правую шчаку. — Сабраліся ўжо... Я да цябе Генка... Дай мне сваіх лыж...

— А твае? У цябе ж ёсць!

— Вядома. Але я іх аддаў. Брат нейкі прыехаў да Нінкі. Вось ён на іх і паедзе.

«Лоўкі ты, Міхаська! Мае лыжы табе!.. Новыя лыжы... Каб ты выхваляўся перад Нінкаю!..» — падумаў Генка.

— Я іх не памазаў яшчэ. Дакладней, памазаў, але малавата... На іх і не паедзеш у такую макрэчу...

— Ха-ха! Глядзі, што знайшоў... — Генка выцягнуў з кішэні паперку, пачаў старанна разглядаць напісанае. — Кантрольная... Такая цяжкая работа была...

— Ты дасі лыжы ці не? — перапыніў яго Міхась.

— Думаеш, шкада мне? Кажу табе: не паедзеш на іх. Сёння ранічкаю паспрабаваў — не ідуць. І мацаванне трэба паправіць. Пешкі будзеш ісці, а не ехаць. Толькі не думай, што шкадую...

— Ну, што ж, — пакрыўджана сказаў Міхась. — Каб я болей што ў цябе папрасіў... Ніколі! Але ж і ты... — Міхась хуценька павярнуўся і пайшоў. Гэта было так нечакана, што Генка не паспеў сказаць у апраўданне ніводнага слова. Ды, уласна кажучы, навошта апраўданне? Падумаеш, пакрыўдзіўся... А што Генка зрабіў такога? Ну, не даў лыжы. Яны ж сапраўды не ў парадку... Ды і самому хочацца паехаць.

Генка дастаў з кутка лыжы. У маленькае акенца сенцаў свяціла няяркае зімовае сонца. Фарба на лыжах блішчала, блішчалі вузкія пазы, добра і роўна намазаныя. Праўда, ён памыліўся: мазаць лыжы болей і не трэба, бо ўчора ледзьве не гадзіну шараваў іх старым валёнкам.

З хаты выйшла маці, здзіўлена зірнула на сына.

— Ці не з лыжамі ты гэта размаўляеш, Генка? Здаецца ж, чула голас Міхаські. — Яна засмяялася: — Бачу хочацца табе паехаць. Пачакай трошкі, пачакай. Упраўлюся з бялізнай, і паедзеш.

**Алесь Савіцкі**

(Заканчэнне ў наступным нумары)




## УЗМАЦНЕННЕ ЎПЛЫВУ ПОЛЬСКІХ ФЕАДАЛАЎ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ

Люблінская унія зусім не палепшыла цяжкага жыцця польскага працоўнага народа, але прынясла аграмадныя карысці польскім феадалам і каталіцкай царкве.

Раней вялікая колькасць зямлі і прыгонных сялян у Беларусі належала вялікаму князю. Значная частка даходаў з іх ішла на дзяржаўныя патрэбы і выдаткі. Пасля уніі гэтыя землі і сяляне сталі ўласнасцю караля Рэчы Паспалітай. Ён шчодра раздаваў іх польскім і беларускім магнатам, шляхце, каталічаскай царкве, асабліва багата ахвяроўваў ордэну езуітаў. Такім чынам схіляў на свой бок мясцовых феадалаў і ўзмацняў уплыў польскіх магнатаў, шляхты і каталіцкай царквы на беларускіх землях. Беларускія феадалы імкнуліся зраўняцца ў правах з польскімі магнатамі і дзеля гэтага пераходзілі з праваслаўнага веравання ў каталіцтва, пачалі паланізавацца.

На беларускіх землях разгарнулі дзейнасць езуіты. Яны намагаліся перавесці ў каталіцтва ўсё беларускае праваслаўнае насельніцтва, каб такім чынам замацаваць залежнасць беларускіх зямель ад рымскага папы і польскіх магнатаў. За сродкі, ахвяраваныя ім рымскім папам, каралём і магнатамі-католікамі, яны заснавалі ў Беларусі шмат сваіх школ. У гэтых школах панаваў дух пагарды да беларускай мовы, сваіх звычаяў і радзімы. Затое езуіты навучылі шанаваць рымскага папу, каталіцкую веру і быць паслухмянымі польскім магнатам. У езуіцкіх школах вучылася беларуская шляхецкая моладзь і дзеці заможных мяшчан. Таму ў хуткім часе многа беларускай шляхты і заможных мяшчан перайшло ў каталіцтва.

Толькі рамеснікі, сяляне, дробныя гандляры, незаможная шляхта і невялікая колькасць магнатаў засталіся на Беларусі праваслаўнымі. Таму часта яны, выступаючы супроць каталіцкай царквы, выступалі адначасова супроць прыгнёту магнатаў і іншаземнаму засіллю.

Паны дзейнічалі па праву: «чыя ўлада, таго і вера». Яны прымушалі пераходзіць у каталіцтва сваіх падданых. Але просты беларускі народ з усіх сіл супраціўляўся такому насіллю. Каб паскорыць умацаванне ўлады магнатаў і каталіцкай царквы на беларускіх і украінскіх землях, у 1596 годзе ў Брэсце па загаду караля і дапамозе магнатаў наступіла злучэнне праваслаўнай царквы з каталіцкай і ў яго выніку была створана новая царква — уніяцкая. Яна была падпарадкавана рымскаму папе і польскаму каралю. Уніяцкую царкву ўсямерна падтрымлівалі польскія і літоўскія феадалы, таму што яна служыла духоваму запаланенню беларускага народа і ўзмацняла панаванне прыгнятальнікаў.

## ІКОНА

«Ікона ў Польшчы і яе ператварэнні» пад такім названнем адкрыта ў этнаграфічным музеі ў Варшаве выстаўку іконы. Сабрана тут іконы з Лэмкаўшчыны, якія з'яўляюцца своеасаблівым скрыжаваннем візантыйскай праваслаўнай іконы з уплывамі мясцовага народнага мастацтва. Выстаўка цешыцца аграмаднай папулярнасцю. За прыклад паслужыць хаця б факт, што каталог гэтай выстаўкі, які надрукавана ў тыражы 1800 экземпляраў, разышоўся сярод наведвальнікаў даслоўна на працягу некалькіх дзён. Кіраўніцтва выстаўкі стараецца зрабіць паўторнае выданне каталога. Выстаўка працягвацца будзе да канца гэтага года. (п)




**«ЯГО ВЫНЕСУЦЬ СЯБРЫ»**

Джонсан быў у прэзідэнцкай спальні. Ён пагаліўся, прычасаўся і зноў змяніў кашулю. У хваставым адсеку Дэйв Пауэрс гаварыў Рою:

— Пані Кенедзі хоча, каб вы і іншыя агенты, якія былі з прэзідэнтам, самі вынеслі яго і каб машыну вёў Грыр.

Ведаючы, як цяжка перажываў няшчасце шафёр, Келерман быў уражаны яе чуласцю. Пані Кенедзі сама перагаварыла з Эвелін Лінкальн, Мэры Галагер, Магсі О'Ліры і Джорджам Томасам.

— Я хачу, каб вы былі каля труны, — сказала яна кожнаму з іх, а Годфры Макх'ю дадала: — Я хачу, каб яго вынеслі сябры.

Падышоў Тэд Кліфтан і паведаміў Кену О'Донелу:

— Ваенныя гатовы вынесці труну.

— Мы самі яго вынесем, — коратка адказаў О'Донел.

Кен перадаў у адсек, дзе сядзелі супрацоўнікі нябожчыка прэзідэнта, што пані Кенедзі хоча, каб тыя, хто быў бліжэй за ўсё да яе мужа, суправаджалі яго пры вынасе труны.

На борце самалёта быў і другі прэзідэнт, аднак у той момант усім, нават сцюардам, удзялялася больш увагі, чым новаму кіраўніку дзяржавы. Пятнаццаць чалавек уціснуліся ў цесны калідор. Макілдаф бачыў, што прэзідэнта пакінулі ў салоне аднаго.

Выконваючы абавязкі прэс-сакратара быў уніжаны. Пазней у той жа вечар ён адчуў сябе яшчэ больш няёмка. У будынку ўрада ён заўважыў, што Джонсан працягвае адчуваць раздражненне і лічыць ва ўсім вінаватым іменна Макілдафа. Новы прэзідэнт разважаў над гэтым непрыемным інцыдэнтам нават на наступны дзень. Пасля заканчэння пасяджэння кабінета, на якім ён упершыню старшынстваваў, ён даверана расказаў аднаму са сваіх супрацоўнікаў, што ў яго ўзніклі «цяжкія праблемы з сям'ёй Кенедзі». Як вынікае з запісак яго сакратаркі, зробленых пазней у той жа дзень, «паводле яго слоў, калі самалёт прызямліўся, ніхто з членаў сям'і... не звярнуў на яго ніякай увагі, яны вынеслі цела з самалёта, паставілі труну ў машыну, узялі пані Кенедзі і паехалі, і толькі тады ён сышоў з самалёта. На яго, ужо прэзідэнта Злучаных Штатаў, нават не звярнулі ўвагі, яму не аказалі ніякіх ушанаванняў. Але ён сказаў, што проста падставіў другую шчаку... Што я магу зрабіць, сказаў ён, я не хачу сварыцца з гэтай сям'ёй, а арэол Кенедзі вельмі важны для ўсіх нас».

Позіркі натоўпу, які сабраўся, былі звернуты да задніх, прэзідэнцкіх дзверцаў. А трап падалі да пярэдніх дзверцаў, і міністр юстыцыі падняўся на яго незаўважаным; ён ужо ўзбягаў па прыступках, калі трап усё яшчэ каціліі да самалёта. Ускочыўшы ў самалёт, ён прабег цераз радыёрубку, кабіну супрацоўнікаў прэзідэнта і салон. Ліз Карпентэр, якая пазнала яго схуднелы твар, працягнула руку, каб паляпаць яго па плячу. Ён не заўважыў ні яе, ні Джонсанаў — на наступны дзень прэзідэнт сказаў у размове з адным са сваіх саветнікаў, што Кенедзі не абмяняўся з ім ні словам, таму што імкнуўся толькі да аднаго чалавека.

— Дзе Джэкі? — пачула Ліз нягучны голас Боба.

У хваставым адсеку ён ціха падышоў і стаў побач з пані Кенедзі.

— Джэкі, — нягучна сказаў ён, абнімаючы яе за плечы. — Я тут.

Усе вакол уздрыгнулі: яго голас быў дакладна голасам яго брата...

Боб Кенедзі адсунуў засаўку з плексіглаза, якая аддзяляла ўнутраную частку аўтамабіля «хуткай дапамогі» ад месца вадзіцеля, і спытаў:

— Рой, ты чуў, яны затрымалі гэтага хлопца ў Даласе?

Рой нічога яшчэ не ведаў. Вось ужо дзве гадзіны ўся краіна толькі і гава-

# ТРЫБУНА чытачоў

## З ЖЫЦЦЯ ПАЖАРНІКАЎ

29 кастрычніка ў памяшканні Павятовай камэнды пажарнікаў у Саколцы адбылася чарговая нарада актыву супрацьпажарнай аховы. Выявілася адна праўда, што няма рады, каб зусім пазбегнуць пажараў, але можна абмежаваць іх. Калі ў мінулым годзе за гэты самы перыяд на Сакольшчыне было 35 пажараў, а кошты затрат сягалі каля 3,5 мільёнаў злотых, то ў гэтым годзе было пажараў 73(!), аднак кошты затрат сягалі толькі 2,2 мільёны злотых. Гэта вельмі выразна сведчыць аб баявой спраўнасці пажарных каманд Сакольшчыны.

У мінулым годзе ў большасці выпадкаў да ўзнікнення пажараў прычыніліся дзеці. У гэтым годзе «пальма першынства» ў гэтым няслаўным спаборніцтве належыць дарослым. Ад перуноў было ў мінулым годзе на Сакольшчыне 5 пажараў, у гэтым годзе было іх 7. Выдавалася б, цяпер амаль на ўсіх будынках Сакольшчыны заінсталяваны громаадводы. Мажлівасць паўставання пажараў павінна зменшыцца да мінімума. Аднак жыццё паказвае інакш. У чым жа прычына? А вось прычына ў тым, што громаадводы лёгкага тыпу патрабуюць дбайнасці аб іх і трымання заўсёды ў належным парадку. А прыходзіцца назіраць зусім іншае. На некаторых будынках падпоры, якія прытрымліваюць драты, пападалі, а драты ляжаць на страсе і часта гэтыя драты зусім не злучаюцца з зямлёй, не гаворачы аб тым, што дрэнна закопаны. Нядбайнасць у кансервацыі громаадводаў стварае яшчэ лепшыя ўмовы да паўставання пажараў.

Барацьба з пажарамі цяжкая. Пажары былі, пажары ёсць і пажары будуць. Як бы не былі ўзброены пажарныя каманды, як бы не былі вышкаленыя паасобныя пажарнікі, яны ніколі не запэўняць людзям цалкавітай бяспекі. Толькі супольная акцыя ўсяго грамадства можа прынесці жаданы вынік. Пажараў будзе менш і барацьба будзе з імі лягчэйшая, калі кожны паасобны грамадзянін будзе перасцерагаць супрацьпажарныя загады і выключыць да мінімума са свайго штодзённага быту ўсё тое, што спрыяе паўставанню пажараў. **К. Пятэльскі**

Старшыня ОСП у Крушынянах

## ПАТРЭБНЫ БЕНЗІН

Мястэчка Нарва, што ў Гайнаўскім павеце, ляжыць на турыстычным шляху. Тут летам шмат прыязджае аўтобусаў і легкавых машын. Але вазьмі купі ў Нарве бензіну? Са свечкай не знойдзеш. Жалезная крама не дастасавана да таго, каб бензін прадаваць, а бензінавай станцыі нямаш. Як забракне якому-небудзь шафёру бензіну, то хоць ты сядай і плач. Вядома, што матарызацыя цяпер распаўсюдзілася і на вёсках многія маюць матацыклы. А за бензінам трэба ехаць у Гайнаўку (22 км), або ў Заблудаў (19 км).

Варта, каб Ваяводскае прадпрыемства ЦПН у Беластоку падумала аб мястэчку Нарва і ў 1968 годзе пабудавала станцыю на так важнай турыстычнай трасе.

Таго жадаюць жыхары Нарвы і навакольных вёсак. М. Л.

Гайнаўскі павет

---

рыла пра Лі Освальда, але сярод пасажыраў «ВПС-1» пра гэта ведалі толькі тыя, хто сачыў за тэлевізарам у салоне.

Затым адбылася бязладная размова пра верагодны лёс памочнікаў Кенедзі, аб затрымцы ў адлёце з Лаўфілда, аб ролі ў гэтым Макх'ю і аб тым тлумачэнні, якое даў у той час новы прэзідэнт.

Злёгку схіліўшыся над труной, пані Кенедзі прашаптала:

— О, Бобі, я проста не магу паверыць, што Джэка больш няма.

Яе бліскучыя ад слёз вочы спыніліся на шэрай фіранцы над яго плячом. Яна расказвала пра картэж, пра забойства сярод белага дня, аб тым, што адбылося потым. Цэлыя дваццаць мінут ён моўчкі слухаў. Пасля ён расказваў:

— Было ясна, што яна хацела расказаць мне пра гэта, і не мела ніякага значэння, хацеў я слухаць ці не... Я тады не думаў, ці хацеў я чуць усё гэта ці не. І яна расказала ўсё да канца.

Не прамовіўшы ні слова, ён выслухаў страшэнны расказ аб тым, што здарылася ў Даласе, расказ, паведамлены яму над труной глухім, ціхім голасам.

**(Працяг будзе)**

## НЕ ШКОДЗІЛА Б НЕ ТОЛЬКІ НАВАВОЛЬЦАМ

Аўтар артыкула «Сырадэля», які быў змешчаны ў «Трыбуне чытачоў» за 5 лістапада, моцна памыляецца пішучы, што яшчэ да гэтага часу ў многіх вёсках гаспадары недацэньваюць кармавой вартасці сырадэлі.

Сучасныя гаспадары дастаткова свядомыя ў гэтай справе. Калі ў іншых вёсках не дацэньваюць сырадэлі, то не па віне гаспадароў. Вінавата тут цераспалосіца, сістэма, якая не дазваляе ўзбагаціць іх палі карыснай пашай. Нававольцы нядаўна пачалі сеяць сырадэлю, бо нядаўна была праведзена ў іх вёсцы камасацыя. У нашай вёсцы ўжо даўно хутары і даўно сеем сырадэлю. Але мала хто з нашых гаспадароў, так як нававольцы, прывязвае каровы цэлую восень на сырадэлі. У нас пераважна косяць і даюць корм у хлявах. Гэтым пазбягаем марнатраўства. На полі каровы топчуць жа гэты высакаякасны корм. Па-мойму, вопыт малынскіх гаспадароў варта пераняць не толькі нававольцам.

**Міхась Красоўскі**

Малынка

## ВАРВАРЫ

Нядаўна мне давялося пабываць на заблудаўскіх праваслаўных могілках. Проста не хацелася верыць сваім вачам. Некалькі помнікаў, якія ставяць людзі сваім блізкім, да таго знішчаны, што проста цяжка глядзець. Фатаграфіі павырываны, таблічкі з подпісамі разбіты, руры ад агароджы магіл забраны, а слупкі разбіты. Хто ж гэтым варварствам займаецца? У дваццатым стагоддзі здаецца няма дзікіх людзей. А аднака ж там знайшліся. Навошта патрэбна тым дзікунам чужая фатаграфія? А ці ён падумаў, якая крыўда таму, хто гэты помнік ставіў. Гэта зроблена памяць блізкім, дарагім. **В. Янцэвіч**

Скупава

## Сардэчныя ТАЙНЫ

**Дарагое Сэрцайка!**

Мне 18 год. Жыву на гаспадарцы. У мяне ёсць толькі адзін брат, але ён ужо жанаты і жыве на гаспадарцы сваёй жонкі. Я асталася толькі з бацькамі. Нядаўна ў нас была забава. Год таму я пазнаёмілася з Ванем, які служыў у арміі. Ён пісаў да мяне пісьмы і прасіў, каб я на яго чакала. Мне ён спадабаўся, але ўжо не так вельмі, каб не магла без яго жыць. Нядаўна ён вярнуўся дамоў, пайшоў працаваць у суседняе мястэчка (там працаваў ён і перад войскам). Мы дамовіліся, што сустрэнемся на гэтай забаве. І сапраўды ён прыехаў. У нашай вёсцы ён мае дзядзьку і заўсёды прыязджае да яго. Пакуль ён быў у войску, усё было добра. Аднак калі ўжо вярнуўся і хацеў прыйсці да мяне, цэлая сям'я дзядзькі запратэставала. І ён іх паслухаў. Дахаты да мяне не прыйшоў, а толькі падыйшоў на забаве і то тады, калі яго цёця пайшла з забавы. Усё рабіў так, каб дзядзька і цётка не ведалі. А я ў той час танцавала з іншым хлопцам, які мне таксама падабаўся. Аднак калі ён падыйшоў у канцы забавы, каб адвесці мяне дамоў, я пайшла з Ванем. а гэтага другога хлапца пакінула. Ваня адавёў мяне дамоў, але ўжо быў іншы, чым заўсёды. Аб жаніцьбе нічога не ўспамінаў. На другі дзень увогуле не зайшоў да мяне, а проста паехаў дахаты. Не ведаю цяпер, што рабіць, як паступіць. Гэты друті хлапец, з якім я танцавала, ад якога забраў мяне Ваня, мне таксама падабаецца, і ён хацеў бы са мною жаніцца. Як паступіць, каго выбраць?

Соня

з Дуброўшчыны

**Дарагая Соня!** Ты нядобра паступіла. Калі Ваня баяўся падыйсці да цябе цэлы вечар на забаве, а толькі ў канцы падыйшоў, ты павінна была астацца аднак з другім хлопцам. Ваня ўжо дарослы чалавек і не павінен слухаць дзядзькі ці цёткі, а свой розум мець. Яго паводзіны дрэнна сведчаць аб ім. На замуж ты яшчэ замаладая, таму раю не пераймацца паводзінамі Вані і пры другой такой аказіі паказаць свой гонар. Будзь ветліва і лічы яго сябрам а не нарачоным. А будучыня пакажа, як паступіць далей. Сэрцайка

## СУПОЛЬНЫМІ НАМАГАННЯМІ

Не мала клопатаў са сваёй дарогай маюць жыхары Крывой, што ў Бельскім павеце. Вясной ці восенню гэтай дарогай нельга праехаць. Дык пастанавілі яны ўпарадкаваць яе. На працягу двух тыдняў выкапалі 600 м рову. Прэзідыум ГРН у Галадах прызнала вёсцы адпаведны фонд на выжвіраванне дарогі. Тэкст і фота: **П. Зінкевіч**

## СМУРОД І ГОМАН

Вёска Ваські, што на Гайнаўшчыне, нічым не розніцца ад іншых вёсак. Вуліца брукаваная, стаяць электрычныя слупы. Але калі ідзеш вуліцаю, то ўжо здалёк ад панадворка Васіля Граматовіча чуваць непрыемны пах і гоман аж страх. Што ж гэта такое? Аказваецца, Васіль Граматовіч займаецца гадоўляй качак. Трымае іх некалькі тысяч. Гэта добра, бо гаспадар мае з гэтай гадоўлі даход. Але за якую кару церпяць яго суседзі? Яны ж не падыхаюць свежым паветрам і не праветраць сваіх памяшканняў. Як у дзень, так і ў начы нясецца ад гэтай фермы смурод і пастаянны гоман.

Такою гадоўляю добра займацца далей ад людскіх памяшканняў, каб не атручваць жыцця суседзям.

**Крапіўка**

з-пад Нараўкі

## АЛЯ КІСЛА

Аля Кісла, жыхарка Семяноўкі, Гайнаўскі пав., працуе начальнікам пошты ў роднай вёсцы. Са шматлікімі абавязкамі спраўляецца паспяхова. Яе раён штогод выпісвае больш 150 нумараў «Нівы» і сотні нумараў спецыялістычнай сельскагаспадарчай прэсы.

Аля Кісла сваёй працавітасцю і сумленнасцю ў штодзённай працы здабыла сабе давер і ўдзячнасць аднавяскоўцаў і ўсіх жыхараў свайго раёна. Жадаем ёй плённай працы ў будучыні.

**Янка Цялушэцкі**

## ХЛЕЎ — ПРЫКЛАД

Вось такі хлеў (здымак) пабудаваў сабе гаспадар з вёскі Новае Ляўкова Васіль Трусевіч.

Мае ён 13 м 70 см даўжыні і 5 м 10 см шырыні, мураваны з цэглы і сіпарэксаў. Заліты строп. У гэтым хляве стаіць парнік і знаходзяцца пашы, як бульба, асыпка для свіней. Кошт пабудовы склаў суму 40 тыс. зл. З дапамогай прыйшоў ПЗУ, які пасля накрыцця хлява чарапіцай прызначыў узнагароду 10 тысяч злотых. Хлеў пабудавана паводле плана.

**Янка Цялушэцкі**

Ляўкова

## КІНО

**Праграма на 28.XI. — 3.XII.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Zbrodniarz i panna'' (polski), 28—29.XI. „Iwan Groźny'' (radz.), I i II s. 30.XI.—3.XII.

**Кляшчэлі**

„Fifi piórko'' (franc.), 28—29.XI. „Flip, Flap i inni'' (USA), 30.XI.—1.XII. „Partyzanckim szlakiem'' (jugosł.), 2—3.XII.

**Дубіны**

„Zejście do piekła'' (polski), „Człowiek z karabinem'' (radz.), 2—3.XII.

**Нараўка**

„Biała pani'' (czeski), „Zerwany most'' (polski), 29.XI.—3.XII.

**Нарва**

„Szkoła grzeszników'' (czeski), „Kochajmy syrenki'' (polski), 29.XI.—3.XII.

**Чыжы**

„Wołga, Wołga'' (radz.), „Miejsce dla jednego'' (polski), 29.XI.—3.XII.

**Дубічы Царкоўныя**

„Tomasz oszust'' (franc.), „Piekło i niebo'' (polski), 29.XI.—3.XII.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Kontrybucja'' (polski), „Aleksander Newski'' (radz.), 29.XI.—3.XII.

**Орля**

„Upiór z Morsville'' (czeski), „Zwyczajny faszyzm'' (radz.), 29.XI.—3.XII.

**Райск**

„Wzgórze'' (angl.), „Czas rozłąki'' (radz.), 29.XI.—3.XII.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Bitwa nad Wołgą'' (radz.), „Foto Haber'' (węgierski), 28.XI.—1.XII.

**Міхалова**

„Czarne i białe'' (USA), „Gładka skóra'' (franc.), 29.XI.—3.XII.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Dzień ostatni, dzień pierwszy'' (radz.), 28.XI.—29.XI. „Sabrina'' (USA), 30.XI.—1.XII. „Flip, Flap i inni'' (USA), 2—3.XII.

**Шудзялава**

„Szyfry'' (polski), „Dzwony dla bosych'' (czeski), 29.XI.—3.XII.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Sabrina'' (USA), „Flip, Flap i inni'' (USA), 29.XI.—3.XII.

**Новы Двор**

„Tygrys lubi świeże mięso'' (franc.), „Odraza'' (węgierski), 2.—3.XII.

**Ліпск**

„Zejście do piekła'' (polski), „Fan Fan Tulipan'' (franc.), 2—3.XII.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. M-3. NAKŁAD 7627

